Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 6000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **70.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 10000 мк., сярод тэксту 9000 м. і на 4 стр. 8000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 15. Вільня, Серада, 3-га кастрычніка 1923 г. Год I.

## Паслы і грамадзянства.

У нядзелю, 30 верасьня, старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу, пасол Тарашкевіч, зрабіў справаздачу аб дзейнасьці Клюбу ў Сойме перад пленумам Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.

У нашым грамадзкім жыцьці гэта дужа важны факт: блізу год ужо працуюць нашы выбранцы ў польскіх законадаўчых установах, але сувязь іх з арганізаваным грамадзянствам была даволі слабая. Дзейнасьць Цантральнае Народнае Рады, якая павінна была гэту сувязь з пасламі наладзіць, як мае быць, ня была дапушчана ўрадам ген. Сікорскага, а Нацыянальны Камітэт доўгі час быў бязчынны і толькі цяпер узнавіў сваю працу ў абноўленым складзе. І першым крокам Камітэту і зьявілася *завязаньне сувязі з Пасольскім Клюбам.*

Значэньне такое сувязі лёгка зразумець. Нашы паслы перад выездам першы раз у Варшаву выпрацавалі сваю палітычную і сацыяльную праграму, а такжа асновы тактыкі, што і было зацьверджана зьездам дэлегатаў ад выбарных арганізацыяў з усіх паветаў. Праграма была простым паўтарэньнем таго, што было абвешчана Беларускім Цантральным Выбарным Камітэтам у выбарнай плятформе. Вось-жа мала прыняць тую ці іншую праграму дзейнасьці, мала даць народу тыя ці іншыя пасулы: трэба йшчэ іх правадзіць у жыцьцё, трэба, каб кожын крок паслоў у Сойме быў згодны з гэтай праграмай.

Калі прыпомнім, што сулілі нашаму сялянству партыі, якія змагаліся з беларускім сьпіскам **№ 16**, дык убачым, што усё гэта былі пустыя словы, было простае ашуканства. Ня будзем казаць аб польскіх панскіх партыях, якія маюць цяпер уладу ў гаспадарстве: адносіны сучасных „паноў палажэньня“ наш народ (дый усе працоўныя Польшчы!) дужа добра пазнаў на сваей сьпіне і... на сваей кішані! Але і пасулы „вызваленцаў“ бароцца з асаднікамі, даць нам беларускія школы і нават завясьці аўтаномію для ўсяе Усходняе Беларусі—усё гэта была адна мана! Бо ў Сойме „вызваленцы“ ня толькі не бароліся з асаднікамі, а галасавалі за асыгноўку дзясяткаў міліярдаў на падмогу гэным дармаедам, каторых ганьбуюць ужо нават эндэкі; бо ў той час, як быў „левіцовы“ ўрад ген. Сікорскага, „вызваленцы“ нічым не прычыніліся да таго, каб спыніць нячуваны зьдзек над беларускімі школамі; бо аб аўтаноміі Заходняе Беларусі ніхто з іх і не заікнуўся ў Сойме....

*Як-жа выпаўняюць абвешчаную праграму нашы беларускія паслы*? Як яны спаўняюць свае абяцанкі і пасулы?

Адказ на гэта і даў Беларускі Нацыянальны Камітэт, які фактычна вёў усю выбарную кампанію, зацьвярджаў кандыдатуры паслоў і нясе за іх адказнасьць перад выбаршчыкамі, што давалі свае галасы за гэтых кандыдатаў. Камітэт выслухаў падробную справаздачу Пасольскага Клюбу, акуратна разважыў яе і вынес рэзалюцыю, якую ніжэй друкуем у гэтым нумары.

*Рэзалюцыя Камітэту паказала, што нашы паслы сумленна спаўнялі* ў *Сойме* ўсё *тое, што абяцаліся.* Можам сказаць, што з усіх сьпіскаў, якія канкуравалі на нашай зямлі ў часе выбараў, адзін толькі сьпісак беларускі не ашукаў выбаршчыкаў. Не ашукаў, бо ўсімі сваімі выступленьнямі з соймавае трыбуны, сваімі мэмарыялямі і зваротамі да польскага грамадзянства і да польскіх урадаў яны *цьвёрда імкнуліся да выпаўненьня ўзятых перад выбаршчыкамі абавязкаў*, да правядзеньня ў жыцьцё выбарнае плятформы Беларускага Цантральнага Выбарнага Камітэту.

А ўсё-ж *чаму ніводзін з пунктаў гэнае плятформы ня зьдзейсьнены*? — спытаецца кожны выбаршчык, бачучы, як і далей адбываецца зьдзек над нашым народам, над нашай мовай, над беларускай школай. Пытаньне гэтае стаўлялася і сябрамі Камітэту. А адказ на яго—дужа просты: *бо польскі Сойм, польскі ўрад, польскае грамадзянства бяз розьніцы кірункаў і партыяў супраціўіліся нашым справядлівым дамаганьням*, ламаючы нават пастановы Вэрсальскага трактату, якія абязываюць Польшчу забясьпечываць правы нацыянальных меншасьцяў. Бо нават *урад ген. Сікорскага*, які ў Сойме перад усім сьветам прызнаў нашы правы і абяцаўся іх ушанаваць, *на дзеле ашукаў нас*, манючыся гэткім спосабам толькі выкарыстаць дзеля свайго падтрыманьня галасы беларускіх паслоў. Бо польскае грамадзянства яшчэ ня вылячылася ад тае цяжкае хваробы, якая называецца *зьвярыным нацыяналізмам*, і, ня гледзячы на балючыя ўдары за гэта ў заграннічнай палітыцы Польшчы, усё яшчэ *лятуціць аб поўным вынішчэньні нацыянальных меншасьцяў* у межах свайго гаспадарства...

Як бачым, *не паслы нашы вінаваты* ў тым, што іх стараньні, іх голас у Сойме прападае дарма: *Польшча яго ня чуе—ня хоча чуць*! Але *голас гэты пачуў ужо ўвесь сьвет*, і адно гэта апраўдывае наш Пасольскі Клюб.

Цяпер трэба толькі, каб усе беларусы ў межах Польскае дзяржавы зразумелі, што сучасныя нашыя валадары ніколі з намі лічыцца ня будуць, калі мы будзем слабыя. Трэба, каб народ наш увесь быў нацыянальна сьвядомы, каб быў арганізаваны, каб сваім магутным клічам у патрэбны мамэнт мог падтрымаць слабыя галасы сваіх выбранцаў. Толькі тады гэты супольны галас паслоў і народу проб'ець тую сьцяну, якой адгарадзіла сябе польскае грамадзянства ад меншасьцяў, толькі тады дамаганьні нашага соймавага прадстаўніцтва ня будуць голасам клікаючага ў пустыні.

**Лаўрыновіч.**

## Правал Польшчы.

(*Значэньне выбараў у Раду Лігі Народаў*).

У апошнюю суботу адбыліся на пленуме Лігі Народаў ужо ў чацьверты раз выбары да яе выканаўчага органу—Рады.

Як ведама, у Раду, якая фактычна кіруе ўсім, уваходзяць паводле арт. 4 яе „умовы“ ўваходзяць як сталыя сябры—бяз выбараў—4 прадстаўнікі вялікіх дзяржаў і—па выбару—(спачатку 4, а цяпер 6 прадстаўнікоў ад іншых меншых гаспадарстваў сябраў-Лігі.

Як ні глядзець на дзеяльнасьць і дзейнасьць Лігі, роля апошняе, як арганізаванага прадстаўніцтва вялікшае часткі „арганізаваных“, як кажа „ўмова“ Лігі, г. з.—дзяржаўных народаў сьвету мае вялікую сілу праўнага органу амаль ня сусьветнай апініі.

Трэба сказаць, што гэтая сусьветна-дзяржаўная апінія часам рэзка расходзіцца з апініяй, так сказаць агульна-людзкай...

Але—як раз дзеля таго першая апінія мае ў сучаснасьці вялікшае рэальнае значэньне праўна і фактычна дзейснага чыньніка, асабліва дзеля таго, што, як мы сказалі, Рада Лігі, а пад яе шыльдам фактычна яе сталыя сябры—вялікія дзяржавы, калі толькі згаворацца, маюць даволі рэальнай сілы, каб гэтую „маральную апінію“ Лігі падмацаваць шмат мацнейшымі даводамі...

Але калі, як цяпер, паміж вялікімі дзяржавамі еднасьці няма, дык, зразумела, выступаюць, як асабліва важны, а нават рашучы чыньнік, і гэтыя нясталыя сябры Рады...

З гэтага ясна і тое, што ў гэтых выбарах мае перад усім месца гэтая конкурэнцыя за ўплывы ў Радзе Лігі вялікіх дзяржаваў, якія, так сказаць, падбіраюць у ёй сабе партыі...

І запраўды—і цяпер на выбарах ішла барацьба дзьвюх партыяў—„ангельскай“ і „францускай“...

У лучнасьці з гэтым, але ня зусім раўналежна, ішло змаганьне двух напрамкаў іншых, якое высоўвала напярод прынцыповае пытаньне, ці быць Лізе Народаў запраўдным уплывовым міжнародным аўторытэтам, запраўдным абаронцам малых народаў, ці, як даводзіў у грэка-італьянскім конфлікце Саландра, гэты компэтэнтны аўторытэт Лігі павінен спыніцца там, дзе пачынаецца рэальны інтарэс вялікай дзяржавы.

Яшчэ трэба дадаць, што ў зьвязку з вышэйсказаным, сябры Лігі кандыдатурай Польшчы ў Раду яшчэ больш рэзка падзяліліся на два абозы, якія можна назваць „польскім“ і „няпольскім“, у зьвязку з тым, што мы азначылі, пад выразам „justitia polonica“.

З усяго гэтага відаць ясна, якое вялікае значэньне мелі гэтыя выбары, якую вагу і важнасьць ім прыпісывалі ўсе галасаваўшыя сябры Лігі...

---

Для нас беларусаў, як і для ўсіх „неарганізаваных“, лепей сказаць—„дэзарганізаваных“, парэзаных тымі „арганізаванымі“, аб якіх як быццам толькі гавора ўмова Лігі, гэтыя выбары павінны былі паказаць, у якім напрамку пойдзе агульная праца Лігі, як будзе дзеяць „сусьветная апінія“—у той галоўнай для нас справе, аб якой неяк двузначна кажа яе умова—г. ё. міжнародная абарона меншых дзяржаваў і ўнутры дзяржаваў—абарона правоў іх меншасьцяў.

Няспрытна і ня ў час высунутая кандыдатура Польшчы ў Раду, да таго йшчэ, як сурова, але мусіць верна, кажа „Kur. Polski“, падгатаваная да поўнага правала „ідыётычнай“ палітыкай і тактыкай эндэцкага габінэту, з асаблівай яснасьцяй і рэзкасьцяй паставіла выбары ў Раду пад яскравым і усім добра зразумелым лёзунгам:

Ці будучы склад рады будзе мець ідэйна і пэрсанальна больш „польскі“ характар ці не?

Выбары да рады правалам Польшчы і выбарам яе найяскраўшага праціўніка ясна адказалі на гэтае галоўнае для нас пытаньне...

І зусім не жадаўшы гэтай паняверкі для польскага народу, мы павінны ня толькі разам з левай польскай прэсай сьцьвердзіць у новым паражэньні Польшчы на міжнародным полі няўмеласьць, ці нават, як памастацку выражаецца ўжо ня вытрымаўшы цэлага шэрагу гэткіх саміх „zwycięstw“ п. Сэйды, нават карэктны перадавік „Kur. Polsk.“, „ідыётычнасьць“ усей „прадвыбарнай кампаніі“ праведзенай гэтым мін Сэйдай, а вярней — усім польскім урадам у заграннічнай палітыцы.

Мы павінны сьцьвердзіць у гэтым паражэньні Польшчы добра заслужаную яе нясумленным урадам кару за недатрыманыя, нявыпаўненыя абавязацельствы, якія Польшча ўзяла на сябе перад Лігай Народаў, падпісаўшы яе ўмову...

Мы павінны выразіць ад імя ня толькі беларусаў, але — усіх меншасьцяў Польшчы і ня толькі Польшчы — шчырую радасьць ня з прычыны балючага для польскага грамадзянства паражэньня на форуме „сусьветнае маральнае апініі“, але перад усім

— з прычыны таго, што у асобе п. Скірмунта, у асобе польскага ураду „ідыётычна“ вымагаўшага сабе ад Лігі Народаў асобнай часьці, асобнай награды за цынічнае пагвалчэньне яе прынцыпаў, за нарушэньне сваіх перад ёй абавязацельстваў, — пацярпелі яўны правал у Лізе той „польскі“ напрамак, тая justitia polonica, якія пан Скірмунт на форуме Лігі, а польскі урад „у сябе дома“ зашмат адкрыта прадстаўляюць ад імя ўсяго польскага народу...

У гэтым для нас — галоўны зьмест і сэнс адбыўшыхся у Жэнэве выбараў.

Міжнародная. сусьветная маральная апінія выдала свой прысуд над тэй Польшчай, якую прадстаўляе перад яе Трыбуналам пан Скірмунт, паставіўшы гэтую Польшчу з пункту гледжаньня міжнародна-маральнай ацэнкі ніжэй значна меншай ад яе Чэхаславакіі, прадстаўнік якой, яе галоўны працiўнік, адзіны з усіх ўвашоў новым сябрам у Раду, але нават ніжэй маленькай Партугаліі, прадстаўнік якой атрымаў больш галасоў у гэтым Трыбунале маральнай вартасьці „арганізаваных“ народаў, злучаных ў вялікі Саюз, ці Лігу, чым Польшча.

Хай польскае грамадзянства і польскі народ добра адчуе і зразумее усю паўнату зьместу таго факту, што на выбарах Лігі Народаў Партугалія атрымала на два галасы больш, чым Польшча!.. —

Чым Польшча п. п. Скірмунта, Сэйды, Гломбінскага, Студніцкага, Обста, Польшча гвалтаў і зьдзекаў над намі беларусамі, Польшча гвалчучая сама свае абавязацельствы, падпісаныя ёй у Вэрсалі і праклямаваныя ёю у сваей Канстутыцыі...

Ці польскае грамадзянства зразумее гэтую „навуку“, ці скарыстае з яе, ня ведаем...

Мы чуем толькі весткі аб тым, як хоча „скарыстаць“ з гэтае навукі той самы хьенскі, „ідыётычна“, паводле „Kur. Polsk.“, праваліўшы выбары, польскі урад...

Як заўсёды бывае, гэты „крылоўскі млынар“ рашыў памсьціцца за сваё паражэньне на тых „курах“ што... быццам выпілі рэшту вады з яго абмялеўшай да дна дзяржаўнае запруды... які, як чутно, рашыў „адыграцца“ ад паражэньня на міжнародныя полі — „аканчальнай перамогай“ на ўнутраным...

Яшчэ ў старажытнасьці гаварылі, што калі каго Бог захоча пакараць, дык напярод адбярэ розум, не кажучы ўжо аб сумленьні...

С.

# Сяляне і работнікі.

У той час, калі цэны на фабрычныя вырабы ў сучасны мамэнт у Польшчы шмат вышэйшыя, чым перад вайною,—цэны на збожжа за апошнія часы ня толькі не дасягаюць перадваеннай нормы, але стаяць шмат ніжэй гэтай нормы. Пры гэтым трэба зазначыць, што цана на печаны хлеб стаіць усё-ж такі вельмі высокая і, як напр. у Вільні, чуць не што дзень падвышаецца.

Вось гэтае зьявішча—адносна нізкія цэны на збожжа—абшарнікі і капіталісты стараюцца выкарыстаць, каб пасварыць паміж сабою працоўных гарадоў і вёсак, гарадзкі пролетарыят і малазямельнае сялянства, даводзячы, што раз цана на збожжа нізкая, а на фабрычныя вырабы высокая, дык ува ўсім гэтым вінаваты работнікі, якія дабіваючыся пастаянна павялічэньня заработнай платы, тым самым застаўляюць фабрыкантаў назначаць высокія цэны на тавары. Але ў запраўднасьці справа стаіць зусім іначай.

У адным з папярэдніх нумароў нашай газэты мы паказалі, што работнікі ў Польшчы цяпер зарабляюць у большасьці прадпрыемстваў на палову менш, чым перад вайной. Значыцца, прычына высокіх цэнаў фабрычных вырабаў ляжыць зусім ня ў высокай заработнай плаце, а ў вялізарных даходах фабрыкантаў і цэлай масы гандлёвых пасрэднікаў, якія ўстанаўляюць цэны на гэтыя тавары, лічучыся з цэнамі на загранічных рынках, дзе заработкі работнікаў шмат разоў большыя, чым у нас.

Вось такім спосабам, плацячы мала сваім работнікам, а назначаючы цану на тавар аднолькавую з загранічнымі цэнамі, фабрыканты няшчадна вызыскуюць як работнікаў, так і сялян, атрымліваючы даходы ў шмат разоў большыя, чым кошты вытворчасьці. Гарадзкі работнік, таксама як і селянін, аднолькава зацікаўлены ў тым, каб цэны на адзежу, абутак і інш. былі нізкія, бо ўсё гэтае ён мусіць купляць з свайго мізэрнага заработку.

Тое, што цэны на збожжа стаяць нізкія пэўна-ж дрэнна адбіваецца на жыцьці селяніна, бо каб купіць патрэбныя сабе тавары, ён прымушаны прадаваць збожжа, часта сам застаючыся бяз хлеба, кормячыся аднэй бульбаю. Іншая справа пан-абшарнік. Ён заўсёды можа чакаць, калі цана на збожжа падымецца, бо ён мае досыць грошай, а калі яны пільна яму патрэбны, дык можа лёгка дастаць з дзяржаўнага скарбу пазычку, якую зьверне тады, калі марка шмат страціць на сваей вартасьці, аб чым мы ўжо таксама ня раз пісалі. Апрача таго пастараюцца дабіцца дазволу на выв'аз за граніцу, дзе прададуць на высокую загранічную валюту і будуць спэкуляваць на ёй у сябе дома. Ды апрача таго абшарнік, які плаціць нэндзную плату сваім парабком, заўсёды будзе мець вялікі зыск на пладах іх працы.

А тым часам хлеб у гарадох, ня гледзячы на таннасьць збожжа на вёсках, страшэнна дарагі, дзеля таго, што спэкулянты розных гатункаў і тут нажываюць вялікія даходы. Церпіць на гэтым незаможная гарадзкая люднасьць, якая прымушана таксама зьменшыць спажываньне хлеба. Як сьцьверджае офіцыяльная статыстыка, перад вайной спажыцьцё збожжа ў сярэднім састаўляла 200—210 кілёграмаў на голаву, у той час, калі ў 1921/1922 г. гэтае спажыцьцё зьменшылася да 168 кілёграмаў. Ясна, што гэтае зьмяншэньне адбылося за шчот гарадзкога работніка, працоўнага інтэлігента, сельска-гаспадарчага работніка і малазямельнага селяніна.

Значыць, высокая цана на ўсе прадукты ляжыць ня ў тым, што работнікі шмат зарабляюць, а ў тым вялізарным вызыску працоўных як гарадоў, так і вёсак капіталістамі ўсіх сартоў і гатункаў. Каб змагацца з дарагоўляй, трэба змагацца з спэкуляцыяй абшарнікаў і капіталістаў, з свабодным вывазам за граніцу прадметаў першай патрэбы.

Работнікі і сяляне павінны аб'яднацца і арганізавана выступаць процiў капіталу, дамагацца урадовых дапамогаў для малазямельных сялян, пазбаўленьня гэтых дапамогаў абшарнікаў, поўнай перад-ваеннай платы для вясковых і гарадзкіх работнікаў, кантролю над вытворчасьцяй і распрадзяленьнем прадуктаў прамысловасьці і земляробства праз работнікаў і сялян. Тады толькі спыніцца шал дарагоўлі, і неспаўмернасьць аплаты працы і цэнаў тавараў.

Язьвіч.

# Будзьма гатовымі!

Кожны фашыстаўскі пераварот за граніцай нашы польскія фашысты вітаюць шчырай спагадлівасьцю і радасьцю.Так віталі пераварот Мусоліні у Італіі,Чанкова ў Баўгарыі,дэ-Рывэра ў Гішпаніі,а цяпер з такім-жа спагадам адносяцца да замераў баварскіх фашыстаў. Усе гэтыя фашыстаўскія пераваpоты польскія хьеністы вітаюць, як паварот на права і падгатаўляюць люднасьць да таго, што і ў Польшчы можа адбыцца гэткі пераварот. Усе ідуць на права — кажуць яны — і мы таксама павінны йсьці на права, г. зн., каб у ўлады сталі выключна капіталісты і абшарнікі. Праўда, Польшча і так ужо пашла на права, у Польшчы і без перавароту істнуе Хьена-пястоўскі ўрад, але паны ня надта моцна пачуваюцца на соймавым грунце, яны ня хочуць ставіць у залежнасьць утрыманьне сваей улады ад таго, што ў Сойме яны могуць аказацца ў меншасьці,бо ўжо некаторыя соймавыя партыі ня хочуць падтрымліваць гэтага ўраду N.P.R. (Народная Работніцкая Партыя) адышла ўжо ад Хьена-Пяста; сярод хадэкаў таксама пануе незадаваленьне, ды і сярод пястоўцаў ёсьць шмат нездаволеных панам Вітасам. Вось-жа Хьена баіцца, каб часам не апынуцца ў Сойме ў меншасьці. Ці-ж яны тагды мелі-б выпусьціць з сваіх рук уладу?

Абшарніцка-капіталістычны блек не дзеля таго змагаўся чатыры гады, каб дапяўшы ўлады, так лёгка выпусьціць яе з рук. Хьена, калі ня будзе мець іншага спосабу ўтрымацца ў ўлады, не застановіцца перад пагвалчэньнем Канстытуцыі і пойдзе за прыкладам Мусоліні, Чанкова, дэ-Рывэры, дзейнасьць якіх так выхваляе ў сваіх газэтах. У левай прэсе ўсё часьцей зьяўляюцца весткі аб арганізацыі і ўзбраеньні яўных і тайных фашыстаўскіх арганізацый, якія ў рашучы момант будуць выкарыстаны для перавароту.

Работнікі і сяляне павінны быць на пагатове, каб ня даць перамагчы рэакцыі, а пакуль яшчэ ёсьць час аб'яднаць свае сілы, творачы супольны фронт у барацьбе з абшарніцка-капіталістычнай хьенскай рэакцыяй.

Я. Л.

# Палітычныя падзеі.

## Мэморыял нацыянальных меншасьцяў у Польшчы да Лігі Нацыяў.

„Dziennik Wileński“ у № 219 друкуе зьмест мэморыялу прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў у Польшчы да Лігі Нацыяў:

„Перад аблічча Лігі Нацыяў, а затым перад аблічча ўсяго сьвету выступаем са скаргай мы, прадстаўнікі усіх уцісканых у Польшчы нацыянальнасьцяў.

*Мы, украінцы*, абвінавачваем палякаў: процiў волі народу нашыя землі: Усходняя Галіччына, Валынь, Холм, Падляшша і Палесьсе далучаны да Польскай Дзяржавы. Права самаазначэньня украінскага народу стоптана. Нават абяцаная аўтаномія ня прызнана за намі. Тое, што мы рабілі для абароны нашай свабоды, лічыцца за дзяржаўную здраду. Супраць усялякай гістарычнай практыцы, украінцы, якія змагаліся за свабоду, выключаны з агульнай амнэстыі. Усім эмігрантам адмаўляюць вярнуцца на бацькаўшчыну. Накіну-

# Шляхам катастрофаў.

(Гл. „Вольны Сьцяг“ № 14).

Аслабленьне ваенна-дзяржаўнае сілы і міжнароднае вагі Японіі адбілася, зразумела, і на яе ўнутраных адносінах...

Як гэта заўсёды бывае ў часе вялікіх катастрофаў, ня гледзячы на іх прычыну і характар, павага гаспадарственай улады, асабліва такой, якая блага і штучна ўмацавана сацыяльным уціскам або нацыянальным гвалтам, ці імпэрыялістычным падбоем слабшых народаў, захопленых аружнай сілай,—гэтая павага ўлады пачынае таксама катастрафічна падаць... Вонкавай катастрофе адпавядае ўнутраная і наадварот...

Гэтак сталася і ў Японіі.

Павага яе правага „хіенскага“ ўраду Гомбэі Ямамата адразу паляцела ўніз са сваей штучнай вышыні... На самага прэм'ера зроблены замах, амаль не каштаваўшы яму жыцьця... Абернены амаль не ў нявольнікаў карэйцы паднялі голаву...

Ўплывы задушанага цьвёрдай уладай камунізму адразу ўзрасьлі...

Сацыяльныя няроўнасьці—пад націскам усенароднае катастрофы—пачалі выраўноўвацца самі сабой...

Трэба адзначыць, што японскія „паны“, з мікадам (царом) на чале, выказалі пры гэтым шмат больш розуму і маральнага сэнсу—ня ў крыўду будзе гэта сказана якім іншым...

Гэтым усім, як заявіў нядаўна ў маскоўскіх газэтах Чычэрын, адкрываецца новы шырокі грунт і вялікія горызонты для праўдзіва-прыязных адносін паміж абодвама вялікімі народамі—расейскім і японскім...

Вялікая ахвярная помач, якую, як даносяць радавыя газэты, нясуць японскім народным масам народныя масы Саюзных рэспублік, яшчэ бліжэй пасунуць адзін да аднаго абодва вялікія народы...

---

Японская катастрофа, можна сказаць, зьяўляецца *трэцяй вялікай катастрофай* нашага, так сказаць, апокаліптычнага дзесяцілецьця...

Ці-ж ня гэтую самую, па сваім разьмерам, унутранаму сэнсу і рэзультатам катастрофу пацярпела Расея?!

І ў Расеі, як кажуць навейшыя славянафілы „эўразіцы“ (ідэолёгі Расеі, як *лучніцы Эўропы і Азіі*), у выніку вялікага ваенна-сацыяльнага землятрасеньня—*завалілася ўся „эўрапэйская“, блага-імпэрыялістычная, штучна-капіталістычная „сярэдзіна“ вялікага гмаху казённа-пятроўскай дзяржавы... і астаўся толькі нязьнішчажальны народны напалову азіяцкі фундамэнт...* А над ім ад ўсяго гмаху дзяржаўнага—неяк павіс у паветры, *толькі нейкі купал ці дах захаванае рэлігійнае, глыбака-народнае традыцыі...*

У Нямеччыне таксама—вялікая сусьветная вайна, пачатая яе-ж уласным, засуджаным на пагібель, Кайзэрам, разьбіла ваеннай катастрофай у кавалкі *яго* імпэрыю, аставіўшы толькі народную Рэспубліку, захаваўшую ўсю неперамoжную моц нямецкага нацыянальнага духа...

Як пішуць, японскі народ на'т пасьля гэткай „спробы боскай“ ня страціў сваей энэргіі і бадзёрнасьці ў працы...

Жывы, неперамoжны дух веры ў будучыну вее па ўсім абшары гэтага „Вялікага Ўсходу“—ад Рэну аж да Спакойнага акіяну!..

І вось надзвычайна цікава, што пасьля гэтае трэцяе катастрофы—над дыонісаўскімі руінамі ўсіх трох зваліўшыхся з сваей штучнай вышыні імпэрыялізмаў — збавіцельна-творчым „аполёнійскім“ відмам нараждаецца плянэтарна-грандыёзная ідэя *Саюзу* трох, займаючых вялікшую палову паўночнае паўкулі Зямлі народных дзяржаваў — *Расеі—Нямеччыны—Японіі...*

Аб гэтым найвялікшым у сьвеце Саюзе, ідэя якога магла нарадзіцца толькі ў „плянэтарных“ мазгох расейскіх бальшавікоў,—ўжо многа гавораць і пішуць...

---

Як мы казалі, бліжэйшым вынікам японскае катастрофы зьявілася тое, што са шляху англасакса да сусьветнай гэгэмоніі скінуты яшчэ адзін конкурэнт, і што — ў далейшым выніку гэтага—аслабіцца рыкашэтам і апошні, што стаіць ужо на самым краю сваей трагічна-благой вышыні і няўхібна з яе зваліцца...—Скінута Японія, аслабіцца Францыя...

Астануцца, каб панаваць над сьветам, ці...—каб зьніштажаць адзін другога два „браты“ Англія і Амэрыка...

Але-ж тыя самыя тры катастрофы—яшчэ ў далейшым выніку — можа, пачнуць *ствараць новага конкурэнта англа-амэрыканскай сусьветнай дыктатуры,—адзінага на сьвеце ў асобе гэтага новага Саюзу Нямеччыны—Расеі—Японіі.*

Ня кажучы пра Амэрыку, адна Англія мае столькі грахоў, але гэтак лоўка пакуль што балянсуе на сваей вадлівай вышыні найлепшага на сьвеце, але потым няменей крыважорчага імпэрыялізму, што такі *запраўдны-ўмацаваны з нізоў* Саюз Народных Рэспублік зьявіўся-б для яе сусьветнай дыктатуры страшэннай небясьпекай...

Гэтым шляхам, як можна думаць, і пойдзе будучая сусьветная гісторыя...

Вось якія шырокія пэрспэктывы адчыняюцца перад намі ў рэзультаце нaробленых усімі дзяржавамі грахоў і выпаўшай ім за гэтыя грахі кары.

Трэба толькі добра зразумець зьмест і значэньне гэтае кары і, шчыра адпакутаваўшы, сьмела і бадзёрна пачынаць новае жыцьцё...

---

„А што нам беларусам да ўсяго гэтага? — што нам дасьць гэты вялікі Саюз?“, можа запытае хто з найбольш тупагаловых чытачоў...

„Пачашыся добра ў патыліцы—дык можа і ўцяміш“...—адкажам каротка таму мы...

Суліма.

та нам канстытуцыя ў той час, калі нашыя землі яшчэ ня былі прызнаны за Польшчай. Душацца нашыя арганізацыі, аднімаецца нам усякая свабода голасу. Паслоў Сойму пазбаўляюць дзяржаўнай прыналежнасьці. Нашую зямлю дзеляць паміж польскіх колёністаў. Ніводзін украінец ня можа набыць шляхам куплі украінскай зямлі. Уціскаецца нашая царква,зачыняюцца нашыя школы. Жадаем рэвізіі пастановы Рады амбасадораў ад 14 сакавіка 1923 г. і дамагаемся міжнароднай абароны нашых правоў.

*Мы, беларусы*, абвінавачваем палякоў: Уціскаюць нашую царкву, апалячваюць нашых дзяцей у польскіх школах, грабяць зямлю, якая ад вякоў была ў нашай уласнасьці. Самавольна пазбаўляюць нашых правадыроў дзяржаўнай прыналежнасьці.

*Мы, жыды*, абвінавачваем палякоў: У пагромах, якія ўвесь сьвет напоўнілі абурэньнем, забойства у Львове і Кангрэсоўцы жыдоўскіх старыкоў, кабет і дзяцей. Самавольна адмаўляюць нам у абыватэльстве ў Польшчы, праз высяленьне змушаюць нас да эміграцыі. Польскіх урадоўцаў, якія асьмеляцца выступіць у абароне нашых правоў, пляміць, як здраднікаў народу. Топчуцца правы ўласнасьці нашых рэлігійных гмінаў.

*Мы, немцы*, абвінавачваем палякоў: З краю, які ад непамятных часоў быў нямецкі, нас выгналі. Бяспраўна пазбаўляюць нас абыватэльства; сотням тысячаў адабралі магчымасьць істнаваньня так, што мы прымушаны былі ўцякаць з роднае зямлі. Яшчэ цяпер сядзяць польскія жаўнеры на зямлі нямецкіх сялян на Валыні. Пазбаўляюць нас уласнасьці і грабяць, а на зьдзек прызнаюцца нам безвартасьцявыя адшкадаваньні. Ніводзін немец ня можа набыць зямлі, а зямельная рэформа мае нас да шчэнту пазбавіць зямельнай уласнасьці. У Галіччыне, Конгрэсоўцы і Прускай вобласьці прасьледуюцца нашыя арганізацыі. Рэдактары нямецкіх газэтаў ёнчаць у крыміналах паміма амнэстыі. Не шануецца свабода царквы. Проці волі бацькоў прымушаюцца нямецкія дзеці хадзіць да польскай школы.

*Мы, літоўцы*, абвінавачваем палякаў: заграбілі бяспраўна нашую зямлю праз замах Жэлігоўскага. Бязьлітасна прасьледуючы нас, жадаюць нас вынішчыць да шчэнту. Зачынілі нашыя школы, зачынілі нашыя культурныя і гаспадарчыя арганізацыі, высялілі нашую інтэлігенцыю, альбо трымаюць у вастрогах і лягерах для інтэрнаваных. Дзеляць нашую зямлю паміж польскімі колёністамі, забараняюць нам карыстацца сваей роднай мовай.

Так уціскае Польшча народы, якія становяць 45°/₀ жыхароў гэтай дзяржавы. Так датрымлівае Польшча свайго слова, калі ўжо атрымала свабоду, дзякуючы чужым дзяржавам і абвесьціла ўрачыста шанаваць правы нацыянальных меншасьцяў.Так напоўніла Польшча свае граніцы бяспраўем і гвалтам. Тысячы эмігрантаў і выгнанцаў пашыраюць навакола польскіх граніцаў ненавісьць і жаданьне помсты. Падаем гэтае да ведама Лігі Нацыяў і просім, каб неадкладна было вызначана беспартыйнае сьледства, каб усім эмігрантам было прызнана права да найхутчэйшага ўзвароту і быў паложаны канец немагчымым гвалтам.

Ідуць подпісы: праф. Міхайла Лазінскі (з Прагі), Палута Бадунова, Ул. Ластоўскі, д-р Кікер. дыр. Ян, праф. Рэйніс.

## ПОЛЬШЧА.

Працы над аканчальным ўстанаўленьнем граніцы на ўсходзе ўжо канчаюцца. Усе палевыя работы будуць закончаны 1 лістапада. У кастрычніку адбудзецца ў Варшаве зьезд польскай і радавай дэлегацый, якаі вызначыць тэрмін зацьверджаньня граніцы і яе ратыфікацыі.

---

Прасовыя рэпрэсіі ўсё павялічываюцца, сканфіскавалі № 19 „Kolejarza-Związkówca“, органу профэсыянальнага саюзу чыгуншчыкаў. Конфіскавана таксама „Ziema Lubelska“.

Забастоўка гарадзкіх работнікаў у Львове закончылася. Магістрат згодзіўся на важнейшыя работніцкія дамаганьні.

Перагаворы работнікаў-вуглякопаў з прамыслоўцамі аб падвышцы платы не далі ніякіх вынікаў. У нядзелю 23 верасьня ў Домброве адбыўся з гэтай прычыны мітынг, на якім было каля 40.000 работнікаў; на мітынгу аднагалосна пастанавілі, што калі прамыслоўцы ня выпаўняць жаданьняў аб падвышцы на 27°/₀, абвесьціць забастоўку.

---

Хільтон Юнг 5 кастрычніка выедзе з Лёндыну да Польшчы на спэцыяльныя запросіны польскага ўраду. Місыя Юнга не зьяўляецца офіцыяльнай. Разам з Юнгам прыяжджаюць віцэ-губэрнатар ангельскага банку Троттэр і прадстаўнік міністэрства фінансаў Понсон. Юнг, як ведама, прыяжджае ў характары фінансавага экспэрта.

---

Паседжаньні Сойму будуць узноўлены 9 кастрычніка.

## НЯМЕЧЧЫНА.

З прычыны абвешчаньня ўрадам Нямецкай Рэспублікі спыненьня пасыўнага праціўленьня Баварыя выступіла з самастойнай палітыкай,, вызначаючы дыктатарам Кара. Цэнтральны ўрад у адказ на гэта абвесьціў ваеннае палажэньне, з спыненьнем констытуцыйных свабодаў і аддачай выканаўчай улады ў рукі ваеннага міністра, якая ў паасобных акругох перадаецца генаралам і цывільным камісарам, якія назначаюцца міністрам унутраных спраў.

---

Дыктатар Кар заявіў, што ў Баварыі пануе спакой. Войска і паліцыя знаходзяцца ў руках ураду.

Да Мюнхена сьцянуты вайсковыя аддзелы, якія знаходзяцца ў баявой гатоўнасьці. У Мюнхене і ваколіцах знаходзяцца сільна ўзброеныя фашыстаўскія аддзелы Гітлера. Змабілізаваны баёўкі таксама і прыхільнікаў Росбаха.

---

Паміж Карам і правадыром фашыстаў Гітлерам адбылася конфэрэнцыя, на якой дайшло да поўнага паразуменьня. Баварскія фашысты і манархісты ідуць рука аб руку да супольнай мэты.

---

Ваенны міністар Гэсьлер забараніў распаўсюджваньне фашыстаўскай газэты „Volkische Beobachter“. У адказ на гэтае Кар заявіў, што гэты загад ня мае моцы ў Баварыі. Такім чынам Баварскі ўрад яўна выступае проціў Цэнтральнага ўраду Рэспублікі. Гэта выклікала вялікі непакой, тым больш, што адначасна ў Баварыі зачынена сацыялістычная газэта „Münschner Post“, а таксама зачынена шмат сацыялістычных арганізацыяў.

---

Дыктатар Кар выдаў загад аб скасаваньні ўставы аб абароне рэспублікі. У Мюнхене забаронены соцыялістычныя маніфэстацыі, адначасна даны дазвол на сабраньне нацыяналістаў, староньнікаў Росбаха.

---

Генаральны Камісар Баварскі Кар забараніў тварэньня работніцкай варты. У сацыялістычных колах цьвердзяць, што Кар пад націскам фашыстаў, распачне арышты сацыялістычных правадыроў. Магчыма, што з гэтай прычыны сацыялісты выступяць з урадовай коаліцыі. Усе загады Кара скіраваны проціў сац.-дэмакратаў.

---

Цэнтральны камітэт нямецкай камуністычнай партыі выдаў адозву, заклікаючую да зваленьня ўраду Штрэзэмана і да ўтварэньня работніцка-сялянскага ўраду. Адозва разьлеплена на ўсіх вуліцах. Пачаткам барацьбы, да якой заклікаюць камуністы павінна быць генаральная забастоўка. Камуністы спадзяюцца, што работніцкія масы пойдуць за імі і лічаць сучасны мамэнт найбольш адпаведным для зьдзейсьненьня сваіх замераў. Соцыял-дэмократычная партыя ў Саксоніі таксама настроена проціў сучаснага ўраду.

---

Камуністы абвесьцілі ў акупованых абшарах 24 гадзінную забастоўку ў знак пратэсту проціў спыненьня пасыўнага праціўленьня.

## С. С. Р. Р.

У Парыж выехаў прадстаўнік Нар. Каміс. Шляхоў Дэльгас для учасьця ў паседжаньні міжнароднага саюзу чугунак.

---

Весткі аб тым, быццам Рада Народных Камісараў, разгледзеўшы прапазыцыю Румынскага ўраду аб пераглядзе граніцы на ўзаемных уступках, даручыла Чычэрыну ўвайсьці ў неофіцыяльныя перагаворы,— ня верны. 27 верасьня ў Тіраспалі ўзнавіліся перагаворы паміж дэлегацыямі С.С.Р.Р. і Румыніі аб урэгуляваньні пытаньня аб незаконных пераходах Днястра.

---

Высьнілася магчымасьць павялічыць гадавую дабычу вугальля ў Данецкім басэйне да 1.600.000.000 пудоў. Лічаць, што данецкі вугаль можа выціснуць заграцічны, чаму спрыяюць варункі транспарта. Петраград, які найбольш карыстаўся заграцічным вуглём ужо адтрымаў з Данецкага басэйну 100.000 тонаў.

---

Зацьверджаны канцэсыі нямецкаму т-ву гаспадарчых зносінаў з Усходам на будову жал. дарогі Мга—Рыбінск і эксплёатацыі мільёна дзесяцінаў лесу ў районе дарогі. Концэсыянэр забавязаны пабудаваць у районе канцэсыі 15 лесапілак і затраціць на будову чыгункі ня менш 7 мільёнаў зал. руб.

---

Экспорт Цэнтросаюза за апошнія 4 месяцы 930.000 фунтаў штэрлінгаў. Імпорт 170.000. У Ніжнім Цэнтросаюз прадаў на 15 мільёнаў зал. руб.

---

Ува ўсім Саюзе разпачалася здача адзінага сельска-гаспадарчага падатку. Сяляне задаволены заменай розных падаткаў у натуры адным грашовым налогам, плацячы яго часткова облігацыямі хлебнай пазычкі.

---

У артыкуле „Магчымасьць грамадзянскай вайны“ у Нямеччыне і магчымых пры гэтым міжнародных конфліктах „Правда“ піша, што С.С.Р.Р. насамперш будзе імкнуцца, каб утрымаць мір, выкарыстаўшы дзеля гэтага ўсе срэдствы, але ў прадбачаньні небясьпекі павінен гатовіцца да горшага і ўмацоўваць унутраную і вонкавую сілу.

## АНГЛІЯ.

Да Лёндыну прыбылі прадстаўнікі усіх Колёніяў і домініяў, выключаючы аўстралійскага прэм'ера, на конфэрэнцыю Брытанскай Імпэрыі.

## БАУГАРЫЯ.

Згодна з офіцыяльнымі паведамленьнямі баўгарскага ўраду рэволюцыйны рух у Баўгарыі задушаны.

## ІТАЛІЯ.

У партыі італьянскіх фашыстаў наступіў крызіс з прычыны нездавольства некаторых сябраў партыі палітыкай Мусоліні. Магчыма, што выканаўчы камітэт партыі падасца ў адстаўку і ў самой партыі адбудзецца раскол.

## ГІШПАНІЯ.

Фашысты ў Гішпаніі йдуць па сьлядам Мусоліні.

Прімо дэ-Рывэра заявіў, што парлямэнцкая рэформа будзе скіравана да таго, каб выключыць палітычныя справы з компэтэнцыі парлямэнту, які будзе разглядаць толькі цывільныя справы. Будучы гішпанскі парлямэнт будзе складацца з прадстаўнікоў розных сацыяльных чыньнікаў, якія маюць ўплыў на эканамічнае жыцьцё: земляўласьнікаў, прамыслоўцаў і гандляроў, асобаў свабодных профэсый і работнікаў. Урад будзе незалежны ад парлямэнту і будзе назначацца каралём.

### Выбары да Рады Лігі Нацыяў.

Апошняе паседжаньне Лігі Нацыяў, закончылася выбарамі 6 нясталых сябраў да Рады Лігі. Выбраны: Уругвай (40 галасоў), Бразылія (34 гал.), Бэльгія (32 гал.), Швецiя (31 гал.), Чэхаславацыя (30 гал.), Гішпанія (30 гал.). Польшча адтрымала толькі 17 галасоў. Партугалія—19, Пэрсыя — 14. Такім спосабам Скірмунт ня выбраны. Новая Рада Лігі розьніцца ад папярэдняй толькі тым, што на месца Кітаю выбрана Чэхославацыя. Рэшта сябраў засталася бяз зьменаў.

# З газэт.

### Яшчэ аб „крэсовых“ балячках.

Зацікаўленьне „крэсамі“, якое выяўляе ў апошніх часох уся польская прэса, мае той добры бок, што цэлы рад заганаў, якія дагэтуль рабілі польскай уладзе ўціскаными „меншасьці“, пацьвярджаецца цяпер самімі-ж палякамі. І то не абы-якімі! Лейб-орган эндэцыі „Gazeta Warszawska“ піша ў стацьці „Bolączki kresowe“, паміж іншым, гэтак:

> Нездавольства (—сярод насяленьня „крэсув“) выклікае перадусім тое, што ўлада не спаўняе, як мае быць, тых сваіх абавязкаў, якія ляжаць на ёй, незалежна ад таго, ці істнуючы ўрад свой, ці чужацкі, ці ён хоча служыць народу, ці яго эксплятаваць. Значыцца, польская ўлада працуе няспраўна. Ведаем і ў Варшаве, якое гэта няшчасьце, калі трэба выплаціць ураду хоць-бы дробны падатак, выбраць пашпарт, ці нешта падобнае. Вось-жа на „крэсах“ гэтая няспраўнасьць адчуваецца йшчэ вастрэй, ці то з прычыны далёкае адлежнасьці, ці нягоднага складу чыноўнікаў. На жаль, у цэнтры йшчэ лішне часта ўглядаюцца на „крэсы“, як на месца ссылкі праступнікаў, куды і шлюць менш здольных чыноўнікаў, або такіх, што ў нечым праштрафіліся....

Адным словам, на „крэсах“ польская адміністрацыя прадстаўляе точную копію царскае адміністрацыі даваенных часоў,— толькі, дадамо, ў тысячу разоў горшую за арыгінале. З гэтым, відаць, згаджаецца і „Gaz. Warsz.“, кажучы далей:

> Незабясьпечанасьць насяленьня на „Крэсах“ — гэта найвялікшая бяда, якая дае такжа і палітычныя вынікі ў пастаці агульнага нездаваленьня народу, які ўспамінае, што *ані ў царскіх часох, ані пад нямецкай акупацыяй* нічога падобнага ня бывала.

Канчаецца перадавіца „Gazet Warsz.“ гэтак:

> З усей станоўчасьцяй можам адзначыць, што галоўная балячка „крэсаў“—гэта благое выпаўненьне польскаю ўладай элемэнтарных абавязкаў упраўленьня краем і запэўненьня яму бясьпечнасьці.

Чытаючы гэтыя словы ажно дзіўна робіцца, як гэта можа пісаць эндэцкая газэта! Ці ня зьбіраецца эндэцыя перайсьці ў апазыцыю?

Ды не: якраз у тым-жа нумары „Gaz. Warsz.“ знаходзім перадрук стацьці з мясячніку „Przegląd Wszechpolski“, у якой п. Маковскі падгатаўляе грамадзянства да зьмены канстытуцыі:

> „Канстытуцыя Рэчыпаспалітай, прынятая 17 марца 1921 году, прадстаўляе адзін з самых няўдатных актаў гэтага роду“.

І, хацяя, як сказаў адзін школьны інспэктар беларускім сялянам, якія дамагаліся беларускае школы на аснове канстытуцыі, — „Konstytucja uchwalona, ałe nie wprowadzona w życie“,—эндэкі жадаюць, каб „дэмакратычныя“ законы перасталі істнаваць нават і на паперы. А перад усім жадаюць, каб прэзыдэнту былі дадзены... правы манарха!

Бо як-жа: прэзыдэнт, выбраны Соймам і Сэнатам, ня мае права разагнаць іх бяз згоды большасьці сэнатараў! Вось, эндэкі і жадаюць надаць яму права роспуску Сойму і Сэнату сваей уласнай воляй, нікога ня пытаючыся. І гэтае жаданьне высказываецца якраз цяпер, калі ўрад — у руках эндэкаў. Гэта выкрывае палітычныя пляны эндэцыі: з прычыны выкрыцьця і няўдачы праектаў зьвязаных з перагрупіроўкай польскіх войск (міністэрства абвяшчае, што перамяшчэньня войск ня будзе!), эндэкі плянуюць у істнуючым

